**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№38(702) 19 верасня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





**Мястэчку Германавічы – 450!**
**Спявае Таццяна Грыневіч і яе сын Адась (злева).**
*Фота Ул. Скрабатуна.*
Працяг тэмы на стар. 4



# У аўторак у Беларусі другі раз за месяц падаражэў бензін: цяпер А-92 — 8 400, ДТ — 9 200

**У аўторак у Беларусі другі раз за месяц падаражэў бензін: цяпер А-92 — 8 400, ДТ — 9 200**

У аўторак у Беларусі другі раз за месяц падаражэў бензін: цяпер А-92 — 8 400, ДТ — 9 200

17 верасня ў Беларусі зноў павысіўся кошт бензіну і дызельнага паліва.

Літр бензіну АІ-92 (К5) цяпер каштуе 8.400 рублёў за літр, АІ-95 (К5) — 9.100 рублёў за літр, дызельнае паліва — 9.200 рублёў за літр, дызельнае паліва Еўра 5 — 9.400 рублёў за літр.

Гэта трэцяе павышэнне цэн на паліва з пачатку года. Апошні раз яны мяняліся два тыдні таму — у ноч на 3 верасня — у сярэднім на 5%.

У прыватнасці, бензін «Нармаль-80» тады вырас да 7.400 рублёў за літр (+200), Аі-92 — 7.700–7.800 (+400), Аі-95 — 8.300 (+500), дызпаліва (самае таннае) — 8.500 (+500).

«Перагляд цэн праведзены ў мэтах частковай кампенсацыі павелічэння з 28 жніўня 2013 года ставак акцызаў на аўтамабільныя бензіны на 45%, на дызельнае паліва — на 70%», — казалася тады ў паведамленні канцэрна «Белнафтахім».

nn.by

**Полацкі раён**

## Аб'яднанне не панацэя ад праблем

■ Чэслаў Якубовіч

**Яшчэ напрыканцы мінулага года дэпутаты Полацкага гарсавета практычна аднагалосна далі згоду на аб'яднанне свайго старажытнага горада з раёнам у адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку.**

Вясной сёлета такая аптымізацыя завяршылася, але лепей жыць ад гэтага палачанам не стала. Аб гэтым нядаўна гаварылася на пашыраным пасяджэнні райвыканкама па падвядзенні вынікаў дзейнасці гаспадарчага комплексу Полаччыны, у якім удзельнічаў і задаў тон жорсткай размове памочнік Прэзідэнта, галоўны інспектар па Віцебскай вобласці Мікалай Дамашкевіч. Як высветлілася, падстаў для аптымізму зусім нямнога, бо з 19 важнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця палачанам удалося выканаць толькі 4. Горш таго, калі летась раённы бюджэт быў датацыйным на 28 працэнтаў, то зараз неабходна кампенсаваць ужо 42 працэнты расходаў з бюджэту вобласці. З-за складанай эканамічнай сітуацыі на 32 мясцовых прадпрыемствах і арганізацый раёна ў мясцовы бюджэт недапаступіла ў першым паўгоддзі 5,5 млрд. рублёў. Як і ў цэлым па краіне, у Полацку нямала праблемных калектываў, даўгі якіх перавысілі 1,2 трыльёны рублёў. Нават у раней квітнеючага ААТ "Тэхналіт Полацк" і ААТ "Прамтмашрамонт", швейнай фабрыкі "Мона" сёння цяжкасці са сбытам прадукцыі. Шмат праблем у філіяле піўзавода "Полацкае піва" і вінаробчага завода, які стаў холдынгам з далучэннем шэрагу прадпрыемстваў і калгасаў. Большасць кіраўнікоў і спецыялістаў горада аказаліся не гатовымі вытрымаць узрослую канкурэнцыю з іншымі вытворцамі дзяржаў Мытнага саюза.

**Шумілінскі раён**

## Прыцяжэнне родных мясцін

■ Станіслаў Раманчук

**Некалькі гадоў назад у Глыбокім нарадзіўся цікавы праект-конкурс па вызначэнні лепшых маладых сем'яў, якія жывуць у сельскай мясцовасці.**

Аказалася гэта задума настолькі ўдалай, што пазней пераўтварылася ў рэспубліканскі падобны сельскагаспадарчы конкурс "Уладар сяла". Сёлета толькі ў Віцебскай вобласці на першым этапе яго на ўзроўні раёнаў спаборнічалі 150 сем'яў маладых вяскоўцаў. На абласны этап конкурсу, які вызначаў, хто неўзабаве паедзе з Прыдзвіння на рэспубліканскі фінал у Жлобін падчас фестывалю-кірмашу "Дажынкі-2013", адабралі мацнейшых з 12 раёнаў вобласці. Яны былі запрошаны сёлета ў Шумілінскі раён, дзе свята прайшло на тэрыторыі Обальскай сярэдняй школы. У той дзень на школьным двары было весела і шматлюдна, а самы першы конкурс-візітоўка маладых сем'яў здзівіў усіх. Найбольш спадабалася журы выстава-кампазіцыя сям'і Ананічаў з вёскі Васюкі Шаркоўшчынскага раёна. На іх упрыгожаным мініпанадворку была нават кампазіцыя "Лебядзінае возера", дзіцячыя падзелкі, таксама вутка з яблыкамі ад мамы і фаршыраваны сом, які вылавіў бацька. А каб адведаць прысмакі, гасцям свята трэба згуляць ў своеасаблівае "Поле цудаў", пакруціць барабан і правільна адгадаць беларускую загадку. У далейшым сям'я Ананічаў ндярэнна выступіла ў конкурсах пількі дроў, копкі бульбы, прыгатавання дранікаў і іншых і заняла 3-е месца. Абласны ж этап конкурсу "Уладар сяла" выйграла сям'я Кулаковых з Лёзненскага раёна.

**Пастаўскі раён**

## Няма каго вучыць

■ Кастусь Александровіч

**Штогод пачатак новага навучальнага года толькі пацвярджае наяўнасць сур'ёзных дэмаграфічных праблем у правінцыі Беларусі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне сёлета не было ўрачыстай лінейкі ў Лукашоўскай базавай школе, размешчанай побач з ажыўленай трасай Полацк-Вільнюс. Тут прыйшося ўвогуле закрыць у мінулым былую школу-дзесяцігодку, бо ў ёй засталося толькі 24 вучні. Усіх іх сталі вазіць аўтобусам аўтапарка на заняткі ў гарадскую пятую сярэднюю школу райцэнтра, бо і там навучэнцаў паменела. Дарэчы, штогод на Пастаўшчыне змяншаецца колькасць дзетак, якім трэба вучыцца. У гэтым годзе ў школы па раёне прыйшлі ў вучэбныя класы на 80 хлопчыкаў і дзяўчынак менеей, чым было год назад. Праўда, у Лукашове большасць скарочаных педагогаў працаўладкавалі ў іншыя месцы, але ім трэба цяпер ездзіць на працу далекавата ад дому. Як на грэх, насельніцтва глыбінкі імкліва скарачаецца, а самі вёскі старэюць і пакрыху выміраюць. У выніку толькі ў гэтым раёне за апошнія 10 гадоў прыйшлося закрыць 21 малакамплектную школу. У асобных з іх стаяць у вёсках пустымі яшчэ дабротныя цагляныя будынкі са спартзаламі і сталовымі, актавымі заламі. Цяпер тут працуюць толькі 27 школ, з якіх 12 сярэдніх і столькі ж базавых і адна гімназія. На жаль, такая тэндэнцыя будзе працягвацца, бо ўрадам краіны вырашана закрыць усе школы, у якіх вучацца менеей 50 школьнікаў, а іх найболей у Беларусі менавіта на Віцебшчыне.

# Аб самым надзённым

## ВОСТРЫ КАЛІЙНЫ КАНФЛІКТ ПАМІЖ САЮЗНІКАМІ ЗНОЎ АЗМРОЧЫЎ РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКІЯ АДНОСІНЫ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Нельга выключаць такога развіцця падзей, што з цягам часу сітуацыю разруляць, спусцяць яе на тармазах. Трэба проста пачакаць і спадзявацца, што гэта непрыемная гісторыя не адаб'ецца на жаданні іншых расійскіх і замежных інвестараў, дзелавых людзей мець з намі справы, не апасаючыся, што іх могуць арыштаваць у беларускай сталіцы.**

Звычайна напрыканцы лета з-за перыяду масавых водпускаў спакойны час і адбываецца няшмат гучных падзей. Аднак сёлета апроч абвастрэння сітуацыі ў Егіпце і чакання пачатку заходняй ваеннай аперацыі ў ахопленай грамадзянскай вайной Сірыі ўвагу сусветных СМІ прыцягнуў таксама і сур'ёзны калійны канфлікт паміж Расіяй і Беларуссю. А ўнутры нашай краіны з'явіліся нават анекдоты, што цяпер графік афіцыйных сустрэч беларускага прэм'ера ўключае і раздзел "крымінальная хроніка".

Неўзабаве стала зразумела, што абедзве суседнія дзяржавы сталі несці эканамічныя страты (у першую чаргу беларусы) і нават ідэя Саюзнай дзяржавы можа канчаткова лопнуць, як той надуты мыльны пузыр. У любым выпадку скандал атрымаўся грандыёзны з арыштам гендырэктара расійскай кампаніі "Уралкалій" Уладзіслава Баўмгартнера, які ж да таго прыехаў у Мінск па афіцыйным запрашэнні самога кіраўніка ўрада Беларусі М. Мясніковіча. Вось каб праігнараваў гэта запрашэнне, заставаўся б на волі, але неўзабаве апынуўся ў следчым ізалятары КДБ. Самалёт расійскага госця чакаў віп-пасажара ў аэрапорце, а наш Следчы камітэт адразу аб'явіў у міжнародны вышук па лініі Інтэрпола трох расійскіх упраўленцаў Беларускай калійнай кампаніі.

Большасць аналітыкаў упэўнены, што наперадзе нашу краіну чакае няпросты час і нам прыйдзецца самастойна гандляваць каліем на сусветных рынках, ствараць уласную трэйдынгавую сетку ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі. А вось гэты нечаканы гучны арышт – гэта найперш экспромт, альбо эмацыйная рэакцыя галоўнай службовай асобы ў нас на далейшае развіццё падзей з развалам БКК. Дарэчы, і самі арышты буйных бізнесменаў – даўняя традыцыя на расійскіх прасторах, як і перыядычныя абвастрэнні адносін паміж афіцыйным Мінскам і Масквой. Узгадаем, хоць бы знакамітае пуцінскае выказванне аб "мухах і катлетах".

Праўда, на гэты раз вышэйшыя службовыя асобы рабілі выгляд, што гэты інцыдэнт не мае палітычнай асновы. Прэзідэнты двух краін і прэм'еры не рабілі гучных заяў і толькі праз 5 дзён пасля арышту адзін з памочнікаў Пуціна Юрый Ушакоў запатрабаваў вызвалення гендырэктара "Уралкалія". Аднак канфлікт працягваў развівацца і беларускі бок аб'явіў у міжнародны вышук расійскага сенатара-алігарха, галоўнага акцыянера "Уралкалія" Сулеймана Керымава. Апошнім вядомы сваёй любоўю да дагестанскага футбола і тым, што раней падараваў беларускаму лідару шыкоўны дарагакаштуючы лімузін "Майбах".

Па меры развіцця падзей запахла чарговым прывідам нават гандлёвай вайны, бо Крэмль праз свайго вернага абаронцу інтарэсаў, санурача Г. Анішчанку заявіў аб быццам дрэннай якасці беларускага малака, адмовіўся часова ад нашай свініны ды яшчэ істотна скараціў пастаўкі расійскай нафты. І ці спыняцца Мінск з Масквой на гэтым, яшчэ вялікае пытанне. Як бы там не было, а чамусьці становіцца трывожна, бо вядома ў каго больш козыраў у гэтай спрэчцы. У Беларусі, бадай, меней шанцаў выйграць гэтыя разборкі і вярнуць быццам страчаныя для бюджэту 100 млн. долараў.

Хіба мы прыпынім развіццё так званага Еўразійскага саюза і адначасова адкладзём на нейкі перыяд стварэнне на беларускай зямлі расійскай авіябазы, адмовімся ад стварэння сумеснай кампаніі з КамАЗам. А вось што будзем рабіць, калі Крэмль урэжа нам пастаўкі нафты і павысіць цану на газ, адмовіцца купляць нашу ежу і тавары. Нельга выключаць такога развіцця падзей, што з цягам часу сітуацыю разруляць, спусцяць яе на тармазах.

Трэба проста пачакаць і спадзявацца, што гэта непрыемная гісторыя не адаб'ецца на жаданні іншых расійскіх і замежных інвестараў, дзелавых людзей мець з намі справы, не апасаючыся, што іх могуць арыштаваць у беларускай сталіцы. Тым часам восень пачалася для беларусаў з невялікага, 3-га сёлета павышэння заробкаў бюджэтнікаў на 4 працэнты і зноў павышэння тарыфаў на электрычнасць, падаражэння паліва, хлеба, гарэлкі і цыгарэт.

Цікава, што Мінск смела ўвязаўся ў калійны канфлікт з Крамлём, аднак пры гэтым Беларусь зноў папрасіла новы крэдыт у Антыкрызіснага фонда ЕўрА зЭС. Ды і без дапамогі з Усходу не зможа наша краіна рэалізаваць амбіцыйны праект коштам 10 млрд. долараў па будаўніцтву сваёй АЭС.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 19.09.13 | | | | Пятніца 20.09.13 | | | | Субота 21.09.13 | | | | Нядзеля 22.09.13 | | | | Пнд.23.09.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +13 | +16 | +15 | +13 | +13 | +15 | +14 | +11 | +11 | +14 | +12 | +10 | +10 | +13 | +12 | +10 | +10 | +13 |
| Ціск | 737 | 736 | 736 | 735 | 735 | 736 | 737 | 738 | 740 | 742 | 744 | 745 | 746 | 748 | 747 | 745 | 745 | 748 | 750 |
| Вільготнасць | 91 | 93 | 85 | 98 | 98 | 99 | 84 | 96 | 99 | 98 | 76 | 96 | 98 | 99 | 66 | 98 | 100 | 100 | 79 |
| Вецер м/сек | 4 Пд-У | 4 У | 5 У | 4 У | 4 У | 4 У | 4 У | 2 У | 2 Пн-У | 2 Пн-У | 4 Пн | 3 Пн | 4 Пн | 3 Пн | 4 Пн-З | 3 З | 5 Пн | 2 Пн-У | 3 Пн |

## Дзень за днём

**Расійска-беларускія адносіны прыкметна пагоршыліся пасля скандальнага арышту гендырэктара "Уралкалія" У. Баўмгартнера. У І-м паўгоддзі экспарт беларускіх нафтапрадуктаў скараціўся на 21,5 %. Сёлета краіна недаатрымала 1,5 млн. тон збожжа ў параўнанні з мінулым годам. Дэфіцыт знешняга гандлю айчыннымі таварамі перавысіў 2,2 млрд. долараў. Эксперты Мінэканомікі Беларусі заявілі пра неабходнасць плаўнай дэвальвацыі рубля, каб зменшыць негатыўныя тэндэнцыі ў развіцці краіны. Замежныя грамадзяне атрымалі магчымасць атрымоўваць беларускія ўязныя візы ў Нацыянальным аэрапорце "Мінск".**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Уплывовая газета The Independent лічыць, што з-за спробы крымінальнага праследвання алігарха С. Керымава Беларусь і яе народ чакае вельмі складаная восень.

**Егіпет.** Пракуратура зняла з экс-прэзідэнта Хосні Мубарака шэраг абвінавачванняў у карупцыі, суд выпусціў пажылога палітыка з турмы і змясціў пад дамашні арышт.

**Расія.** Прэзідэнт Уладзімір Пуцін публічна прыгразіў Украіне прыняць гандлёвыя санкцыі, калі яна падпіша дагавор аб асацыяцыі і свабодным гандлі з Еўрасаюзам.

**Літва.** У МЗС краіны зноў выклікалі беларускага пасла і заклікалі Беларусь выконваць усе міжнародныя законы і нормы пры ўзвядзенні Беларускай АЭС ля Астраўца.

**Італія.** Праз 8 гадоў на птушкафермах на поўначы краіны зноў зафіксавалі ўспышкі птушынага грыпу, было знішчана каля 700 тысяч курэй, праведзена дэзінфекцыя.

**Украіна.** Услед за Расіяй з-за мер па барацьбе з афрыканскай чумой свіней краіна забараніла ўвоз з Беларусі цалкам свіней, свініну і мясную прадукцыю з гэтай сыравіны.

**Казахстан.** Санслужба краіны не падтрымала Расію ў гандлёвай вайне супраць Украіны і не знайшла парушэнняў якасці ў прадукцыі кандытарскай кампаніі Rochen.

**Ліван.** У другім па велічыні горадзе краіны Трыпалі тэрарысты падарвалі некалькі суніцкіх мячэцей, каля 100 чалавек было забіта і паранена, суніты супраць Б. Асада.

**Літва.** Прэс-служба прэзідэнта паведаміла, што ЗША акажа падтрымку дзяржавам Балтыкі ў вырашэнні эканамічных праблем і палітыцы Усходняга партнёрства ЕС.

**Фінляндыя.** Кампанія Nokia аб'явіла аб продажы за 5,44 мільярда еўра Microsoft сваёй вытворчасці і патэнты на смартфоны і тэлефоны, туды пярэйдуць 32 тысячы супрацоўнікаў.

**КНДР.** Былую палюбоўніцу правадыра Кім Чэн Ына і яшчэ групу музыкантаў аркестра расстралялі за распаўсюджванне парнаграфіі, іх родных адправілі ў лагеры і турмы.

**Англія.** Са дна Ла-Манша з затануўшага ў 17-м стагоддзі галандскага судна паднялі старажытную драўляную скульптуру ў стылі барокка вышынёй 8,5 м з каштоўнасцямі.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск прызначыў сваім галоўным дарадцам і новым дзяржсакратаром Святога Прастола 58-гадовага італьянскага архіепіскапа П. Пароліна.

**Італія.** У сваёй рэзідэнцыі-кляштары пад Рымам былы Папа Рымскі Бенедзікт XVI прызнаўся, што ён першы за 1300 гадоў пакінуў пасаду па духоўнай падказцы з неба.

**Расія.** Асабліва рэжым бяспекі ўвялі ў Сочы з 7 студзеня па 21 сакавіка 2014 года, у сталіцы Алімпіяды будуць і зоны, куды нельга будзе трапіць без спецыяльных пропускаў.

# Банкі Беларусі спыняюць выдачу некаторых відаў крэдытаў




■ Марыяна Бялеўская

**Два банкі Беларусі спынілі выдачу некалькіх крэдытаў. «Мае бацькі звярнуліся ў Беларусбанк за простым спажывецкім крэдытам для куплі дачы. У банку распавялі, якія варта прынесці дакументы і сказалі прыйсці на наступны дзень. Але раніцай патэлефанавалі прадстаўнікі банка і паведамілі, што больш не выдаюцца спажывецкія крэдыты», - піша чытачка газеты «Камсамольская праўда».**

На самай справе два банкі Беларусі БелВЭБ і Беларусбанк пакуль не выдаюць некаторыя віды крэдытаў. Да прыкладу, у Банку БелВЭБ зараз не атрымаецца ўзяць крэдыт на куплю або будаўніцтва жылля, а таксама крэдыт на аўтамабіль. У Беларусбанку таксама часова не выдаюць пазыкі на куплю і будаўніцтва нерухомасці для некаторых маючых патрэбу грамадзян, а яшчэ на медпаслугі, куплю аўто, добраўпарадкаванне месцаў пахавання і спажывецкія патрэбы. У БелЗЭБ падобныя меры патлумачылі сённяшняй нявызначанасцю на рынку фінансаў. Адзначым, што на банкаўскім рынку нават з'явіліся чуткі, што НББ сам параіў банкам нашай краіны больш стрымана ставіцца да выдачы такіх крэдытаў. Банкі ж запэўніваюць, што адмена выдачы крэдытаў - гэта часовая з'ява. Топ-менеджэр аднаго з банкаў адзначыў, што распараджэнне ад Нацбанка не паступала. Уся справа ў тым, што на дадзены момант працэнтныя стаўкі на міжбанку павялічыліся і знаходзяцца ў межах 70-90%. Гэты рост паўплываў на рынак прыцягнення ўкладаў, а таксама крэдытаванне юрыдычных асоб і фізічных асоб. «Фізічных асоб у бліжэйшы час чакае рост працэнтных ставак па крэдытах. Пакуль банкі не могуць вызначыцца з памерам ставак, па якіх можна выдаваць пазыкі. Хутчэй за ўсё, гэта кароткачасовая паўза. Сітуацыя на міжбанку дазволіць зусім хутка зразумець, што будзе далей », - кажа топ-менеджэр. Дарэчы, некаторыя айчынныя банкі ўжо павышаюць стаўкі па крэдытах на спажывецкія патрэбы. Напрыклад, ужо з панядзелка ў БПС - Ашчадбанку можна будзе ўзяць крэдыт пад 42,5 %.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** На флагмане айчыннай індустрыі "Беларуськаліі" спынілі на 2 месяцы прыём на работу новых супрацоўнікаў, на двух рудніках пачалі тэхнічны рамонт.

**Мазыр.** Непрыемным сюрпрызам для мясцовага НПЗ і "Нафтана" стала спыненне паставак Расіяй нафты ў верасні на 400 тысяч тон з-за раптам замены труб "Дружбы".

**Астравец.** Пасля атрымання ліцэнзіі на пляцоўцы будучай АЭС пачалі заліўку бетона пад першы рэактарны блок, у Санкт-Пецярбургу прыступілі да вырабу турбіны для станцыі.

**Крычаў.** Раён стаў 13-м па ліку ў Беларусі, дзе з-за АЧС поўнасцю пазбавіліся ад свінога пагалоўя як на панадворках насельніцтва, так і на свінафермах калгасаў і фермераў.

**Мінск.** У наступным годзе, як заявіў віцэ-прэм'ер урада па АПК М. Русы, усё пагалоўе свіней у Беларусі з-за АЧС пераведуць на кармленне грануліраваным камбікормам.

**Жлобін.** У роднай Мармольскай СШ былы яе выпускнік, віцэ-прэм'ер урада РБА. Тозік прапанаваў павысіць мінімальны прахадны бал для паступлення ў ВНУ болей 10-20 балаў.

**Мінск.** У Міністэрстве адукацыі РБ пацвердзілі, што план прыёму на бюджэт выканалі толькі 19 з 45 дзяржаўных ВНУ, амаль палову студэнтаў недабралі прыватныя ВНУ.

**Гродна.** У новым навучальным годзе ў абласным цэнтры пачалі вучыцца па-беларуску толькі 5 першакласнікаў у СШ 37, летась не было ніводнага, родная мова ў рэзервацыі.

**Смаргонь.** Да 3-х гадоў турмы пагражае 42-гадоваму расіяніну з Калінінграда, які на падпітку без штаноў разграміў вітрыну прадмага вёскі Солы, разбіў акно ў доме старых.

**Мазыр.** Трое прыезжых расіян спачатку ўгналі "Жыгулі" ў мясцовага жыхара, а потым няўдала паспрабавалі абрабаваць у горадзе ювелірны магазін "Царское золата".

**Уручча.** Межгарнізонны ваенны суд пакараў ст. лейтэнанта 2,6 гадамі калоніі-пасялення за гібель маладога салдата падчас стрэльбаў з гранатамёта ў 120-й узорнай брыгадзе.

**Бабруйск.** Улады Магілёўскай вобласці і раёна падтрымалі ініцыятыву грамадскасці аб стварэнні ў пасёлку Глуша мемарыяльнага музея пісьменніка Алеся Адамовіча.

**Светлагорск.** Цела збітай да смерці падчас п'янай спрэчкі 32-гадовай жыхаркі райцэнтра тыдзень праляжала на абочыне прасёлачнай дарогі, пакуль не знайшлі труп нябожчыцы.

**Мінск.** Пасля складанай аперацыі і пагаршэння стану здароўя адной пацыенткі ўлады закрылі адзін з лепшых прыватных медыцынскіх хірургічных цэнтраў краіны "Вектар".

**Магілёў.** Ужо 8 гадоў вобласць – "лідар" у Беларусі па колькасці наразіўшых дзяцей па-за шлюбам, у мясцовых вёсках 38,1 % такіх дзетак – байструкі, у горадзе такіх – 17,2 %.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Напрыканцы лета ў лясных масівах вобласці з-за АЧС знішчылі 4 тысячы дзікіх кабаноў, у насельніцтва забралі 3 тысячы галоў свіней і 10 тысяч пятачкоў зарэзалі людзі.

**Наваполацк.** Са спазненнем на год для навасёлаў здалі ў горадзе новы 58-кватэрны жылы дом-доўгабуд, па вобласці ўдалося завяршыць узвядзенне яшчэ 9 з 39 шматпакутных.

**Полацк.** Пасля аб'яднання горада з раёнам і пагаршэння стану спраў на прадпрыемствах рэгіёна мясцовы бюджэт недаатрымаў ужо 5,5 мільярда рублёў асноўных даходаў.

**Дуброўна.** На створаным у райцэнтры з удзелам інвестара з Расіі ТАА "БТ-Сінтэз" выпусцілі і адправілі на сертыфікацыю першую партыю айчыннага сінтэпону.

**Багушэўск.** На доме, дзе нарадзіўся ваенны лётчык, палкоўнік А. Марфіцкі, з'явілася мемарыяльная дошка, ён загінуў у 2009 годзе на авіяшоу ў Польшчы, але не дапусціў ахвяр.

**Шаркаўшчына.** З-за афрыканскай чумы рэзка пагоршылася фінансавае становішча КУСХП "Гарадзец", гаспадарка яшчэ з вясны не магла разлічыцца з людзьмі за закупленых у іх цялят.

**Паставы.** Абласны інавацыйны фонд выдзеліў прадпрыемству "Паставымэбля" 4 мільярды рублёў крэдыту на тэхпераўзбраенне і закуп сучасных дрэваапрацоўчых станкоў.

**Шуміліна.** Да 7 гадоў турмы пагражае 54-гадоваму вадзіцелю, які перавысіў хуткасць руху, з'ехаў на абочыну і стаў віноўнікам гібелі чацвярых медыкаў з Полаччыны.

**Ушачы.** У мясцовым РДК упершыню правялі раённае свята мёду з ярмаркай-дэгустацыяй, фітабарам, выставай кніг па пчалаводству, на яго прыехалі лепшыя пчалаводы краю.

**Верхнядзвінск.** У 6-ы раз у аграгарадку Валынцы прайшоў фестываль народнай творчасці "Збіраем зорны карагод" з удзелам гасцей з Вісагінскага цэнтра культуры Літвы.

**Расоны.** У завезеных у вальеры паляўнічай гаспадаркі "Чырвоны Бор" з Белавежскай пушчы зуброў з'явілася патомства, сюды збіраюцца восенню даставіць бурых медзвядзёў.

**Лепель.** Мясцовы ваенны санаторый Міністэрства абароны Беларусі прызналі лепшым у Віцебскай вобласці ў конкурсе на лепшае ўтрыманне месц масавага адпачынку.

**Віцебск.** У аграгарадку Копці на воінскім мемарыяле перазахавалі знойдзеныя астанкі яшчэ 55 загінуўшых у 1944 годзе савецкіх салдат, толькі адно імя ўдалося ўстанавіць.

**Шаркаўшчына.** З-за ўдару маланкі загарэўся цагляны будынак пошты ў вёсцы Гуркі, агонь пашкодзіў сцены і дах, але не пацярпелі людзі, цэлымі засталіся тавары і грошы.

**Полацк.** Горад так і не знайшоў грошай на ўтрыманне сваёй футбольнай каманды І-й лігі, шматпакутны ФК "Полацк" з сорамам зняўся з чэмпіянату Беларусі па футболе.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Германавічам – 450 гадоў!

■ Уладзімір Скрабатун

## Крыху гісторыі

Першы пісьмовы ўспамін пра Германавічы (Ерманавічы) як сяло на мяжы Віленскага і Полацкага ваяводстваў датуецца 1563 годам. Імаверна, мясціна належала да маёнтка Сапегаў з цэнтрам у Іказні. Згодна з адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформай (1565-1566) Германавічы ўвайшлі ў склад Браслаўскага павету Віленскага ваяводства.

У 1739 Юзаф Станіслаў Сапега прадаў мястэчка Германавічы з фальваркам Шабалаўшчына інфлянцкаму пану Яну фон Экель Гілзену. З гэтага часу Германавічы — цэнтр асобнага маёнтку, які ахоплівау вёскі Атокі, Белы Двор, Марыямпаль, Перамены, Пузаны, Рэчкі, Юзафоў. У 1782 мястэчка перайшло ў валоданне Шырынаў: Ігнаці заснаваў тут касцёл Перамянення Пана (напачатку – уніяцкая царква), запісаўшы яму 15 валок зямлі, ягоны сын Юстын — капліцу Святых апосталаў Пятра й Паўла.

У выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Германавічы апынуліся ў складзе Расійскай імперыі, у Дзісенскім павеце. Па скасаванні прыгоннага права ў 1861 годзе мястэчка зрабілася цэнтрам воласці Дзісенскага павету, за панскім маёнткам засталося больш як 10 тысяч дзесяцін зямлі. У канцы XIX ст. у Германавічах працавалі вінакурны завод, млын, крама, карчма.

Згодна з Рыжкай мірнай дамовай (1921) Германавічы апынуліся ў складзе міжваеннай Польскай Рэспублікі, дзе зрабіліся цэнтрам гміны Дзісенскага павету Віленскага ваяводства. У 1927 годзе казна купіла за 35 тысяч злотых шырынаўскі палац для школы.

У 1939 Германавічы ўвайшлі ў БССР, дзе 12 кастрычніка 1940 зрабіліся цэнтрам сельсавету Шаркоўшчынскага раёну. Статус паселішча панізілі да вёскі. Станам на 1970 год тут было 209 двароў, на 1992 — 290.



Навучэнцы Шаркоўшчынскай школы мастацтва праводзяць пленэр у парку колішняй сядзібы Шырынаў.

## Пленэр з нагоды 125-х угодкаў ад нараджэння Язэпа Драздовіча

Юбілейныя мерапрыемствы ладзіліся ў двух месцах мастэчка – ля Музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, які месціцца ў колішнім палацы Шырынаў і – у цэнтры Германавічаў.

Ля палаца, які пабудаваў Ігнацый Шырын юныя мастакі з Шаркоўшчынскай школы мастацтва 2-х, 3-х і 4-х класаў – правялі пленэр, што быў прымеркаваны да 125-годдзя з дня нараджэння слыннага мастака Язэпа Драздовіча. Такія пленэры з выездам на прыроду школа мастацтваў праводзіць штогод. Гэтым разам юныя мастакі, якія марацьу будучыні абраць прафесію мастака, дызайнера, мадэльера, ювеліра, малявалі краявіды старадаўняга парка, у якім стаіць палац. Пры заканчэнні пленэру – былі падведзеныя вынікі і вызначаныя лепшыя работы, удзельнікі атрымалі памятныя дыпломы.

Адчасова на прыступках адбывалася адна з юбілейных урачыстасцяў: мясцовыя паэты прачыталі свае вершы, прагучалі прыгожыя песні аб родным краі, праваслаўны святар акрапіў вадой залы музея імя Я. Драздовіча.



Вернісаж на святе ў Германавічах.

## На свята завіталі Шырын і Драздовіч

У цэнтры Германавічаў адбываліся асноўныя ўрачыстасці. З прывітальным словам да прысутных звярнуўся старшыня Шаркоўшчынскага райсавета Уладзімір Шнец.

Былі на святе і Ігнацый Шырын з жонкай, Язэп Драздовіч, іншыя гістарычныя асобы, якіх сыгралі мясцовыя артысты.

На галоўнай сцэне штораз праходзілі тэатралізаваныя пастаноўкі з багатай гісторыі Германавічаў.

Зразумела, Германавічы не такое ўжо і вялікае паселішча, і наўрад ці тут удасца арганізаваць свята з размахам райцэнтра. Аднак, можна з упэўненасцю сказаць, што свята прайшло па местачковаму – масава і весела. А машыны з расійскімі, літоўскімі нумарамі, з нумарамі іншых рэгіёнаў Беларусі – сведчылі, што ўраджэнцы Германавічаў не забываюць сваё мястэчка, адкуль пайшлі ў свет і прыехалі на свята.

Сярод іншага, трэба адзначыць, што новыя раённыя ўлады нарэшце заўважылі мясцовую краязнаўцу і грамадскую актывістку Аду Райчонак. Дарэчы, яна запрасіла вядомых беларускіх бардаў, сярод якіх былі Андрэй Мельнікаў і Таццяна Грыневіч на гэта свята. Зрэшты, восеньскі дождж перашкодзіў іх выступу і свята давялося працягнуць у прыватным музеі Ады Райчонак.

Прыватны музей Ады Райчонак, які адкрыўся ў 2005 годзе, стаўся славутасцю не толькі Германавічаў і Шаркоўшчынскага раёна, яго ведаюць у розных кутках Беларусі. Фактычна спадарыня Ада працягвае справу свайго сына – мастака, пісьменніка, краязнаўцы – Міхася Райчонка, які трагічна загінуў у 1999 годзе.

Пачала ладзіць мастацкія пленэры, конкурсы дзіцячых малюнкаў, прысвечаных мастаку. Разам з беларускімі мастакамі правяла дзевятнаццаць драздовіцкіх пленэраў. У прыватным музеі – дзясяткі карцін вядомых беларускіх мастакоў, у тым ліку і Міхася Райчонка, і сотні кніг з аўтографамі.

У 2009 годзе рэжысёр Уладзімір Колас зняў дакументальны фільм "Галерэя Ады", у якім распавёў пра дзейнасць Ады Райчонак. Фільм быў паказаны ў розных краінах свету, атрымаў шэраг узнагародаў.

У 2010 годзе Ада Райчонак стала лаўрэаткай прэміі імя Васіля Быкава "За свабоду думкі".



Кліменцій Кожан (злева), жыхар Германавічаў, настаўнік-пенсіянер, аўтар шматлікіх краязнаўчых публікацый у «ВГ», дае інтэрв'ю СМІ.



Мясцовыя артысты ў адзенні шляхты часоў Ігнацыя Шырына. Справа сам Ігнацый Шырын.



На юбілей Германавічаў людзі прыехалі з розных гарадоў Беларусі і навакольных вёсак. Шмат хто абачліва ўзяў з сабой парасон.

# Раскрыеш камень, а там – гісторыя!


Царква Покрыва Прасвятой Багародзіцы.

■ Уладзімір Скрабатун

**Навучэнцы двух чацвёртых класаў Глыбоцкай СШ №3 у рамках урока «Мая радзіма – Беларусь» зрабілі цікавую вандроўку па Глыбоччыне, наведалі адзін з самых прыгожых яе куткоў – пагоркава-азёрную Залесчыну.**

Былі ў Залескім парку, на Мамчынай Горцы, наведалі царкву Покрыва Прасвятой Багародзіцы ў Бушыках (да 1939 г. гэтая частка цяперашніх Бушыкаў была асобнай вёскай і мела назоў – Залессе Царкоўнае), а на заканчэнне завіталі ў гісторыка-этнаграфічны музей, што месціцца ў Залескай сярэдняй школе.

Калі сказаць, што дзецям вельмі спадабалася экскурсія, то гэта будзе значыць – нічога не сказаць. Яны слухалі аповяды Рыгора Леанідавіча Шарыпкіна – раскрыўшы рот, а вочы ад здзіўлення – вобразна кажучы – былі па «яблыку». Вось так умее паднесці гісторыю Рыгор Леанідавіч, стваральнік гэтага ўнікальнага музея, і дарэчы не гісторык, а – выкладчык рускай мовы і літаратуры. Аднак гэтыя прадметы для яго ўсяго толькі – прафесія, беларускую ж мову ён папулярызуе праз краязнаўства і гісторыю сваёй Залесчыны.

Дзе вы яшчэ знойдзеце ў іншым сельсавеце Глыбоччыны такі музей, хоць і школьны? Не хачу пакрыўдзіць супрацоўнікаў Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея, але школьны музей ў Залессі па шмат якіх зборах дасць іншым ачкоў напарад.

Настаўнік і краязнаўца натхніў да пошукаў экспанатаў не толькі сваіх вучняў розных гадоў выпускаў, а і іх бацькоў, і мясцовых жыхароў.

Ёсць тут у экспазіцыі нават зуб мамаціа! Экспертыза спраўдзіла – так!

Адзін з экспанатаў вельмі ўразіў экскурсантаў, гэта – звычайны на выгляд камень. Адну з палавінак якога знайшла навучэнка Залескай СШ на калгасным полі і прынесла ў музей да Рыгора Леанідавіча. На ім – адбітак ліста папараці і ракавінка, якая сталася часткай каменя. Рыгор Леанідавіч папрасіў яе ізноў схадзіць на тое поле і пашукаць іншую палавінку, мо проста – плугі сельскагападарчай тэхнікі разламалі камень напалам, і можа знойдзецца і другая палавінка? Яна ізноў пайшла на тое месца і – знайшла!

– Цяпер мы раскрываем гэты камень,– кажа Рыгор Леанідавіч,– а там унутры – гісторыя!

У музеі ёсць шмат экспанатаў, якія яшчэ чатыры дзесяцігоддзі таму былі ў штодзённым ужытку. А сёння гэта – гісторыя. Напрыклад, лічыльнікі (счёты). Раней


Раскрыеш камень, а там – гісторыя. Унутры – адбітак ліста папараці і ракавінка, якая сталася часткай гэтага каменя.

яны ляжалі на стале кожнай калгаснай бухгалтэрыі, іх імела ледзве не кожная сям'я. А цяпер лічыльнікі змянілі не толькі калькулятары, але і камп'ютары і мы не паспяваем сачыць за ўсімі новым мадыфікацыямі, якія змяняюцца ледзве не штодня. Цяперашнія школьнікі такое і ўявіць не могуць – як іхнія дзядулі і бабулі абыходзіліся без калькулятара і камп'ютара.

Частка экспазіцыі музея прысвечаная развіццю народнай адукацыі на Залесчыне. Падручнікі, кнігі, дапаможнікі, плакаты, дыпломы, граматы – аж з канца XIX стагоддзя.

Сам памятаю, як ці не да пятага класа пісалі ў сшытках чарнільнай ручкай. А тая чарніліца патрабавала да сябе вельмі дбайных адносінаў: не разбі, не разлій!

Дык вось, Рыгор Леанідавіч паказаў экскурсантам не толькі чарнільную ручку і чарнільніцу, а сшыткі па чыстапісанні, якія напісаныя чарнільнымі ручкамі. Напісана, здаецца, і прыгожа, а стаіць адзнака – «тройка».

– Вось, бачыце – шэрыкавай ручкай вы так прыгожа не напішыце цяпер! І ўсё ж, у сшытку стаіць тройка! – пракаментавала Раіса Канстанцінаўна Рубашка, класны кіраўнік 4 «Б» класа.

Вось менавіта пасля такіх экскурсій па родным краі пачынаецца ўсведамленне юным пакаленнем сваёй краіны і свайго месца ў гэтай краіне. І мабыць некаторыя з навучэнцаў, паслухаўшы цікавы экскурс Рыгора Леанідавіча ў мінулае свайго краю, ужо зрабілі для сябе высновы – кім быць: геолагам, гісторыкам, археолагам, а мо і настаўнікам?

# Пажарны аўтамабіль

■ А. Андрыеўскі,
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС*

**Першым у гісторыі пажарным аўтамабілем лічыцца пабудаваны ў сярэдзіне XIX стагоддзя самаходная паравая помпа. Парамабіль мог даставіць баявы разлік з пяці чалавек да месца бедства. На машыне кампактна размяшчаліся пажарныя рукавы і іншае ўзбраенне.**

І калі ў Еўропе ў канцы XIX стагоддзя перавагу аддавалі паравым самаходам, то на абшарах Расійскай імперыі вогнеборцы ўсё яшчэ карысталіся коннай цягай для хуткага прыбыцця на пажар.

У 1901 годзе нямецкай фірмай быў выпушчаны ўжо электрамабіль. Ён быў даволі груваскім, рухаўся з невялікай хуткасцю і патрабаваў частай перазарадкі акумулятараў. Прычым гэта можна было зрабіць толькі ў пажарных частках, абсталяваных адмысловым абсталяваннем, а значыць, радыус дзеяння такой машыны быў вельмі абмежаваны.

Эра пажарных пара- і электрамабіляў сталася нядоўгачасовай і завяршылася з'яўленнем бензаматорных машын, якія здзейснілі сапраўдную рэвалюцыю ў справе пажаратушэння.

У царскай Расіі першы пажарны аўтамабіль з'явіўся ў 1904 г. Машына ўяўляла сабою аўталінейку, прызначаную для перавозкі 10 байцоў і пажарных рукавоў. Па бартах размяшчаліся 2 пажарныя лесвіцы. Гэты аўтамабіль быў пабудаваны ў адзіным асобніку і перададзены ў адну з пажарных частак Санкт-Пецярбурга, у якой і праслужыў да 1910 года.

Перавагі такой тэхнікі былі відавочныя, і ў сярэдзіне 1920-х гадоў ужо савецкі аўтапрам арганізаваў вытворчасць пажарных аўтамашын на шасі аўтамабіляў замежнай вытворчасці. І ўсё адно такіх «пераробак» не хапала. Таму шматлікія савецкія энтузіясты саматугам прыстасоўвалі няспраўныя вайсковыя аўта для патрэб пажарнай справы.

Першы ж пажарны аўтамабіль ужо на савецкім шасі з'явіўся ў СССР у 1928 годзе. А праз 9 гадоў пачалася серыйная вытворчасць адмысловай тэхнікі. Яна зрабіла пажарную ахову мабільнай і магутнай – большасць загаранняў ліквідавалася ў самым пачатку.

Сёння ў арсенале выратавальнікаў дзясяткі разнавіднасцяў адмысловых аўтамабіляў, якія адрозніваюцца сучаснай канструкцыяй, камплектацыяй і надзейнасцю. Пры гэтым адмыслоўцы працягваюць распрацоўваць новыя віды аварыйна-выратавальнай тэхнікі, каб у сціслыя тэрміны і з мінімальнымі стратамі ліквідаваць наступствы не толькі пажараў, але і тэхнагенных аварый і стыхійных бедстваў.




**Свята «З днём нараджэння, улюбёны горад! » Адбудзецца 21 верасня.**

# Свята горада адбудзецца ў Докшыцах 21 верасня

**Праграма**:

11.00 - пачатак працы пляцовак «Докшыччына гасцінная», «Смачны фальварак», «Дзіцячы гарадок», выставы народнай творчасці Дома рамёстваў. Рыцарскі турнір з удзелам клуба гістарычнай рэканструкцыі «Нагльфар»;

11.40 - адкрыццё водна - аздараўленчага комплексу ( вуліца Школьная );

12.00 - урачыстае адкрыццё свята (плошча каля гарадскога цэнтра культуры);

13.00 - выступленне народнага ансамбля танца, музыкі і песні «Талака» Віцебскай абласной філармоніі;

15.00 - выступленне дзіцячых творчых калектываў дзіцячай школы мастацтваў «Галерэя юных талентаў» (плошча імя Палявога);

20.30 - святочны канцэрт з удзелам творчых калектываў горада і раёна, падвядзенне вынікаў раённай выставы - конкурсу «Агароднінная феерыя»;

22.00 - феерверк;

22.00-24.00 - дыскатэка пад адкрытым небам;

24.00-04.00 - начная рэтрадыскатэка «Наш горад - гэта мы» ( кінаканцэртная зала «Іскра»).

Крыніца: *Вольга Няўзорава, «Kraj.by»*

# Фестываль «Журавы і журавіны» адбудзецца ў Мёрскім раёне 28-29 верасня

Экалагічны фестываль арганізуюць – праект Праграмы развіцця і Еўрапейскага саюза ААН «Садзейнічанне фарміраванню бязмежнай структуры інтэрнацыянальнага супрацоўніцтва ў галіне экалогіі ў Рэспубліцы Беларусі» сумесна з Міністэрствам аховы прыродных рэсурсаў і экалогіі, Мёрскі раённы выканаўчы камітэт, заказнік «Ельня» і грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» з удзелам Міністэрства турызму і спорту.

Арганізуецца бясплатны трансфер Мінск-Мёры -Мінск. У гэтым годзе фестываль пройдзе ўжо ў другі раз. Час і месца правядзення фестывалю выбраны невыпадкова: менавіта ў верасні ў Мёрскім краі пачынаецца збор журавін




Мясцовае балота Ельня займае вядучую пазіцыю ў Беларусі па запасах ягад. Акрамя гэтага, на працягу восеньскай міграцыі на балота прылятае больш за 4000 жураўлёў .

Гасцей фестывалю чакае канцэрт выканаўцаў Мёрскага раёна, выстава-продаж вырабаў народных промыслаў, атракцыёны, экалагічныя гульні і іншае.

У гідралагічным заказніку ГПУ «Ельня» да фестывалю адкрыецца новая экалагічная сцежка. Работы ўжо пачатыя. Уладкаванне драўлянага насцілу працягласцю 1,5 км і шырынёй 1,5 м з парэнчамі праводзіць КУП «Язненскае ПМС». Пачатак сцежкі размешчаны ва ўрочышчы Табары квартала 88 Мёрскага лясніцтва Дзісенскага лясгаса.

# Сеў на воз – апрані святлоадбівальную камізэльку!

Завадскі А.І.
*старэйшы дзяржаўтаінспектар АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

**З наступленнем асенняга перыяду павялічваецца рызыка здзяйснення дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам конных вазоў. У гэты перыяд найболей інтэнсіўна выкарыстоўваецца конны транспарт грамадзянамі ў вячэрні час.**

Па вобласці ўжо маецца выпадак дарожна-транспартнага здарэння, дзе загінуў возчік і атрымаў цялесныя пашкоджанні і грамадзянін, які ехаў з ім у возе. Дадзены выпадак адбыўся па прычыне адсутнасці святлоадбівальных элементаў на возе, а таксама возчік знаходзіўся ў возе без святлоадбівальнай камізэлькі.

У частцы 21 Правіл дарожнага руху выразна пазначаны абавязкі кіроўцаў конных транспартных сродкаў.

Кіроўцы конных транспартных сродкаў, павінны быць не маладзей чатырнаццаці гадоў.

Кіроўцам конных транспартных сродкаў забараняецца пакідаць жывёлаў без нагляду на дарозе.

Пры руху па дарозе ў цёмны час сутак і (ці) пры яе недастатковай бачнасці на конным транспартным сродку спераду павінен быць уключаны ліхтар, які выпраменьвае белае святло, ззаду – ліхтар, што выпраменьвае чырвонае святло. (Пры немагчымасці абсталявання ліхтарамі, дазволена абсталёўваць воз святлоадбівальнымі элементамі).

Рух па праезнай частцы дарогі на конных транспартных сродках дазваляецца толькі ў адзін шэраг на адлегласці не далей 1 метра ад яе правага краю.

Практычна кожнае ДТЗ з удзелам коннага транспарту нясе за сабой цяжкія наступствы.

З мэтай захавання жыцця і здароўя возчыкаў і асобаў, якія перасоўваюцца ў вазах у якасці пасажыраў супрацоўнікі АДАІ будуць праводзіць адпрацоўкі населеных пунктаў раёна.

У выпадку адсутнасці на конным транспарце светазваротных элементаў і светазваротнай камізэлькі ў возніка, які рухаецца на незарэгістраваным конным транспарце да возніка будуць ужывацца максімальныя меры адміністрацыйнага ўздзеяння.

Аб праходжанні тэхнічнага агляду конных вазоў будзе паведамлена дадаткова ў сельскія выканаўчыя камітэты.



Дзяржаўтаінспекцыя Глыбоцкага РАУС яшчэ раз звяртаецца да ўладальнікаў конных вазоў, спадзяецца на разуменне з вашага боку сённяшняй праблемы, якая тычыцца БДР (папярэджанне гібелі і траўміравання людзей у выніку ДТЗ). Інфармацыю насельніцтва пра тое, якія святлоадбівальныя элементы патрэбны для абсталявання вазоў, можна бясплатна атрымаць у аддзяленні Дзяржаўтаінспекцыі па адрасе: г. Глыбокае вул. Камуністычная, 6., тэл. для даведак: 2-27-78, 2-33-02. Калі ў вашай вёсцы ва ўладальнікаў коннага транспарту не абсталяваныя вазы і няма магчымасці прыехаць у г.Глыбокае, звярніцеся ў свой сельскі выканаўчы камітэт.

# Здай зброю, якая незаконна захоўваецца!

■ В.Д. Барыла,
*старэйшы інспектар па дазваленчай рабоце Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

У апошні час у рэспубліцы прыкметна абвастрылася праблема з незаконным зваротам зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў. Здзейсненыя з іх выкарыстаннем злачынствы, маюць, як правіла цяжкія наступствы. Нягледзячы на прыманыя АУС меры, розныя віды зброі выкарыстоўваюцца ў супрацпраўных мэтах – для незаконнага палявання і здзяйснення іншых правапарушэнняў, якія цягнуць цяжкія наступствы.

**З 30 верасня па 4 кастрычніка 2013 года на тэрыторыі Рэспублікі праводзяцца адмысловыя комплексныя мерапрыемствы «Арсенал», задачамі якіх з'яўляюцца:**

- папярэджанне крадзяжоў зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў з аб'ектаў дазваленчай сістэмы;
- папярэджанне і расчыненне злачынстваў, якія адносяцца да незаконных дзеянняў у стаўленні агнястрэльнай і іншай зброі, боепрыпасаў, выбухных прылад і выбуховых рэчываў;
- выяўленне парушэнняў умоў захоўвання, уліку, нормаў дазволенасці агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў на аб'ектах дазваленчай сістэмы, а таксама ў індывідуальных уладальнікаў зброі;
- выяўленне і прыцягненне да адказнасці асоб, што незаконна захоўваюць, якія перавозяць, што вырабляюць, якія збываюць зброю, боепрыпасы, выбуховыя рэчывы.

Падчас правядзення аперацыі любы грамадзянін можа добраахвотна здаць агнястрэльную зброю і боепрыпасы ў РАУС, якія незаконна захоўваюцца, знойдзеныя, незарэгістраваныя, і не будзе прыцягнуты да адказнасці.

**Нагадваем, што за незаконныя дзеянні ў адносінах агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў, прадугледжана крымінальная адказнасць.**

**Згодна артыкула, 295 КК Рэспублікі Беларусь максімальнае пакаранне можа быць ад 2 да 10 гадоў пазбаўлення волі.**

**Калі Вам вядомыя факты незаконнага захоўвання зброі, боепрыпасаў, выбуховых рэчываў і выбухных прылад, просьба паведаміць пра гэта ў Глыбоцкі РАУС па тэлефонах: 2-27-02, 2-26-41, 597-21-74 МТС ці 102. Ананімнасць гарантуецца.**

# Міждзяржаўная выстаўка-кірмаш «Паляванне і рыбалоўства. Восень-2013» пройдзе 25-28 верасня ў Мінску

**Міжнародная спецыялізаваная выстаўка-кірмаш «Паляванне і рыбалоўства. Восень-2013» пройдзе з 25 па 28 верасня ў НВЦ «Белэкспа» (вул.Купалы, 27). Аб гэтым паведамілі БЕЛТА ў рэспубліканскім дзяржаўна-грамадскім аб'яднанні «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў» (БТПР).**




На выстаўцы будуць прадстаўлены паляўнічыя і рыбалоўныя тавары (аксесуары, адзенне, амуніцыя), паляўнічая зброя і боепрыпасы, паляўнічыя і турыстычныя нажы, аптычныя прыцэлы, прыборы начнога бачання, сродкі радыёнавігацыі, паляўнічыя і рыбалоўныя трафеі, спецыяльныя транспартныя сродкі для палявання, снасці для рыбнай лоўлі, рыштунак для падводнага палявання, маламерныя судны для рыбалкі і запчасткі да іх. Тут жа спецыялісты раскажуць аб рыбалоўных і паляўнічых турах, паслугах па арганізацыі актыўнага адпачынку і гасцінічным сэрвісе для паляўнічых і рыбакоў. Акрамя таго, на выстаўцы можна будзе набыць турыстычныя і спартыўныя тавары, драўнінна-хмызняковыя насаджэнні, грыбы, ягады, мёд, спецыяльную літаратуру.



У дні работы экспазіцыі пройдуць спаборніцтвы па стральбе сярод паляўнічых, якія выявяць самых меткіх як сярод аматараў, так і сярод прафесіяналаў. Адбудзецца конкурс вабільшчыкаў аленя – егераў або паляўнічых, якія падклікаюць звера на выстрал імітацыяй яго голасу. Як адзначылі арганізатары, конкурс вабільшчыкаў – гэта не толькі спаборніцтва, але і эфектнае відовішча. У дні работы выстаўкі запланавана правядзенне семінара, на якім будуць абмяркоўвацца актуальныя для беларускіх паляўнічых і рыбаловаў тэмы.

Чакаецца прыбыццё на выстаўку літоўскай дэлегацыі. Як растлумачылі ў БТПР, з калегамі з суседняй дзяржавы плануецца падпісаць дагавор аб супрацоўніцтве.

Выстаўка праводзіцца Нацыянальным выставачным цэнтрам «Белэкспа» Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пры садзейнічанні Міністэрства лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь і рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў».

***БЕЛТА***




**Віншуем з нагоды юбілею Дня народзін**

Жизнь берет свое начало,
За плечами — пятьдесят пять.
Но ведь это очень мало,
И еще глаза горят!

В сердце молодость бушует
И не хочет затихать,
Чувства разные волнуют,
От которых не устать!

Пусть так будет очень долго,
Ведь до старости — 100 лет.
Все мы — парни и девчонки,
И тому сомнений нет!



*Калектыў аварыйна-дыспетчарскай службы УП ЖКГ Глыбоцкага раёна*

# Вучоныя растлумачылі прычыну позняй вясны ў Беларусі

**Сёлета вясна ў Беларусь прыйшла са спазненнем з-за павелічэння азонавага слоя, паведаміў на прэс-канферэнцыі 12 верасня вядучы навуковы супрацоўнік Цэнтра маніторынгу азонасферы БДУ Аляксандр Красоўскі.**

Паводле яго слоў, зімой у паўночным паўшар'і сабралася «анамальна вялікая колькасць азону», які «прыціснуў» цёплае цячэнне Гальфстрым, што, у сваю чаргу, і запаволіла наступленне вясны ў Еўропе.

Як адзначыў Красоўскі, пра ўплыў азонавага слоя на змяненне клімату вучоныя даведаліся нядаўна, і гэта тэма будзе абмяркоўвацца на канферэнцыі Амерыканскага геафізічнага таварыства ў снежні. У прыватнасці, вучоныя высветлілі, што стратасферны азон удзельнічае ў фарміраванні кароткатэрміновага клімату, ствараючы рамачныя ўмовы для развіцця атмасферных працэсаў паблізу зямной паверхні, адзначыў спецыяліст. Паводле яго слоў, павелічэнне азонавага слоя можа ўзмацніць блакіруючыя эфекты цыклонаў і прыводзіць да з'яўлення засухі ў адным раёне і патопу ў іншым.

Акрамя таго, адзначыў Красоўскі, беларускія вучоныя высветлілі характар уплыву азону на экасістэму.

Паводле яго слоў, даследаванні біёлагаў, праведзеныя ў жніўні гэтага года на возеры Нарач, паказалі, што ў перыяд памяншэння азонавага слоя і адпаведна павелічэння паступленняў на Зямлю ўльтрафіялетавых прамянёў у возеры ачышчаецца вада. Біялагічна актыўнае ультрафіялетавае выпраменьванне здольнае пранікаць у ваду на глыбіню да 12–15 метраў і ўбіваць некаторыя мікраарганізмы, сказаў спецыяліст.

***БелаПАН.***



А вы памятаеце ўраган «Хаўер» у сярэдзіне сакавіка?



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»











## ПАНЯДЗЕЛАК, 23 верасня



**06.00**, **07.20**,**08.15**Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**,**23.15** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.05** **«Отдам жену в хорошие руки»**
**12.10** День в большом городе.
**13.20** «Старажытнае слова. Лёс Міхала Баброўскага».Дак.фільм
**13.50** «Сентябрь 1943-го. Недетский дневник».
**14.15** Вокруг планеты.
**15.15**,**18.40**Новостирегиона.
**15.25** Журналистское расследование.
**15.55** Завтра – это мы!
**16.20** Все путем!
**16.45** Мелодрама **«Время счастья»** (Россия-Украина).
**19.20** Спец.репортаж АТН.
**19.40**, **22.55** Зона Х.
**20.00** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.45** Премьера! **«Билет на двоих»** (Украина). 1-я серия.
**23.30** День спорта.
**23.40** **«МЫ. Верим в любовь»**



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Закрытая школа»**.
**12.10** Премьера. «Самый лучший муж».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровья!»
**13.55** «Модный приговор».
**15.00** Премьера. **«Ясмин»**.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. **«Домработница»**.
**16.55**«Давайпоженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Зубатовщина. Минский эксперимент».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Мосгаз»**.
**22.15** **«Тюдоры»**.
**00.20** **«Конан-варвар»**.
**02.30**-**03.00** Ночные новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Журов-2»** (Россия).
**10.20** Навіны надвор'я.
**10.55** Пляжный футбол. Чемпионат мира. Россия – Парагвай.
**12.20**Теннис.Токио.Женщины.
**14.30** Дорожная история **«Крутой поворот»**
**16.45** Белорусское времечко.
**17.55** Детективный сериал **«Журов-2»** (Россия).
**19.00** **«Краповый берет»** 1-я и 2-я серии.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** **«Интерны»**
**23.05** **«Реальные пацаны»** (Россия).
**00.05** **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).



**06.00** «24 часа».
**06.10** Дневник «ХороШоу»
**06.20** «Утро.».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.».
**08.30** «Неделя».
**09.40** «Большой завтрак».
**10.25** Дневник «ХороШоу».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** **«Слово женщине»**. Сериал.
**12.30** «Джейми: обед за 30 минут».
**13.00** «Женщины XX века» с Элеонорой Езерской. «Лайза Миннелли. Жизнь как кабаре».
**13.30** «24 часа».
**13.50** Дневник «ХороШоу».
**13.55** «Большой город».
**14.30** СТВ представляет: «Звездный ринг». Дайджест. «Лучшие визитки участников».
**15.40** «Другая страна». «Живели, Сербия?».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «По закону».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** Дневник «ХороШоу».
**18.35** «Обманутые наукой».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: **«ХАОС»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** Дневник «ХороШоу».
**23.05** «Военная тайна».
**00.55**«Профессиональный бокс».



**7:00** ПраСвет
**7:25** Зона «Свабоды»
**7:55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**8:20** Два на два (тэледыскусія): Глабальныя беларуская лідары; з удзелам Дзмітрыя Галко і Яніны Мельнікавай
**8:45** Дакументальная гадзіна: «Будучыня працуе»
**10:15** Euromaxx
**10:40** Форум (ток-шоу)
**11:25** **«Час гонару»**: 52 с.
**12:15** ПраСвет
**12:40** Зона «Свабоды»
**13:10** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**13:35** Дакументальная гадзіна: «Будучыня працуе»
**15:00** Праект «Будучыня»
**15:25** **«Схаваныя злачынствы»**
**16:55** **«Палітыканы»**: 4 серыя
**17:40** Відзьмо-невідзьмо : выд. 36
**18:05** Еўропа сёння
**18:35** Назад у будучыню
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра»
**19:00** Навіны
**19:15** Агляд медыяў
**19:20** Агляд падзеяў культуры
**19:25** Дэвайс
**19:30** Навіны
**19:40** РазмоваУ.Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**19:50** Не прапусці!
**20:00** Навіны
**20:10** Агляд падзеяў культуры
**20:15** Дэвайс
**20:35** Асабісты капітал
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** **«Папросту разам»**
**23:05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**0:40** Асабісты капітал
**1:00** Аб'ектыў
**1:25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

